№ 87(669)
Аўторак, 18 мая 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 20000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас



## Аб'яднаная грамадзянская партыя мае намер супрацьстаяць ціску ўлад

Кіраўніцтва Аб'яднанай грамадзянскай партыі мяркуе, што адзін са сцэнарыяў развіцця падзей на Беларусі, распрацоўваемых уладамі, — гэта падрыхтоўка выбараў пад патранажам А.Лукашэнкі. Пра гэта на сустрэчы з журналістамі заявіў намеснік старшыні АГП Анатоль Лябедзька.

Для гэтага, паводле яговых слоў, уладам "неабходна зачыстка палітычнага ландшафту". У дадзены сцэнарый, лічаць у АГП, упісваюцца некаторыя апошнія падзеі, што разгарнуліся вакол партыі, у прыватнасці — рэгулярнае з'яўленне інфармацыі аб магчымым арышце лідэраў АГП, смерць кіраўніка "ценявога" ўрада Генадзя Карпенкі, знікненне Юрыя Захаранкі, пазбаўленне партыі штаб-кватэры. "Мы маем тыповую бульдозерную атаку ў дачыненні як штаба Чыгіра, гэтак і ў дачыненні Аб'яднанай грамадзянскай партыі, якая, на мой погляд, валодае дастаткова моцным чалавечым патэнцыялам і рэсурсам", — сказаў А.Лябедзька.

З гэтай прычыны, па яго меркаванні, АГП змушана прадпрымаць некаторыя меры самаабароны. У іх ліку А.Лябедзька назваў выкарыстанне магчымасцяў СМІ, інфармаванне міжнароднай грамадскасці, прававых арганізацый, урадаў і парламентаў, удзел у грамадскай камісіі па расследаванні абставінаў знікнення Юрыя Захаранкі (ад АГП у яе ўвайшоў Валерый Костка).

Апрача таго, паведаміў А.Лябедзька, на бліжэйшым пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання дэпутаты-члены АГП маюць намер ініцыіраваць стварэнне спецыяльнай дэпутацкай групы, якая зоймецца расследаваннем абставінаў смерці Генадзя Карпенкі. "Апошнім часам усплываюць усё новыя і новыя факты, якія даюць пажыву для сур'ёзных роздумаў", — адзначыў намеснік старшыні АГП.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

## Заява Праваабарончага цэнтра "Вясна-96"

13 мая адбылося пасяджэнне Вышэйшага Гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь. На ім разглядаліся іскі незалежных дэмакратычных газет краіны да Дзяржкамітэта па друку, у якіх газеты аспрэчвалі юрыдычнае абгрунтаванне вынесеных ім папярэджанняў. На судовы працэс прадстаўнікі газет не змаглі з'явіцца і хадайнічалі аб перанясенні справы. Суд не задаволіў хадайніцтва і пачаў судовы працэс без прадстаўнікоў газет. Пры гэтым старшыня Вышэйшага Гаспадарчага суда спадар Бойка нагадаў журналістам, якія прысутнічалі ў зале, пра прынцып роўнасці і спаборніцтва бакоў.

Падчас судовага працэсу старшыня суда спадар Бойка не прывёў ніводнага заключэння экспертызы: ні паліталагічнай, ні філалагічнай, ні псіхалагічнай, хаця газеты абвінавачваліся Дзяржкамдрукам у "закліку да захопу ўлады". Менавіта так ацаніў Падгайны, а ў сваім рашэнні і суддзя Бойка, паведамленне газет пра правядзенне прэзідэнцкіх выбараў. Такім чынам, суд абвясціў новую эру ў жыцці Беларусі, калі любое выказванне аб тым, што "далей так жыць нельга" будзе расцэньвацца судом як тэрарызм, заклік да скідання ўлады ці замах на жыццё прэзідэнта.

Увачавідкі, што рэжым хоча знішчыць незалежны друк. Мы звяртаемся да грамадзян Беларусі, усіх праваабарончых арганізацый, супольнасцей журналістаў дэмакратычных краін свету з заклікам выступіць у абарону незалежнага друку Беларусі.

**Стоп-кадр**

"Запрагліся..."

Фота Антона СЦЕПАНІШЧАВА, Віцебскі раён.

**Віншуем!**

## Святлана Алексіевіч атрымала прэмію імя Гердэра

Адбылася гэтая падзея на пачатку мая ў Вене. Акрамя Святланы Алексіевіч прэміяй, імя Гердэра ад фонду Альфрэда Цёпфера (Гамбург) былі адзначаны яшчэ шэсць выдатных дзеячаў культуры з краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, сярод якіх археолаг Вера Бітракова-Грозданава з Македоніі, паэт з Румыніі Мірча Дзінеску, архітэктар Фердынанд Мілуцкі са Славакіі, літаратуразнаўца Іштван Фрыд і кампазітар Генрык Гарэцкі з Польшчы, пісьменнік Дзевад Карагасан з Босніі. Лаўрэаты прэміі атрымаюць па 30 000 марак і права прапанаваць ад сваёй краіны кандыдата на гадавую стыпендыю з ліку таленавітых вучняў.

Між іншым гэтая прэмія павінна садзейнічаць развіццю культурных сувязей з краінамі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, а таксама сведчыць аб значным укладзе гэтых краін у еўрапейскую культуру.

**Марына КОКТЫШ.**



## Расійскі Фонд абароны галоснасці пратэстуе супраць рашэння Вышэйшага Гаспадарчага суда Беларусі, які адмовіў у іску шасці недзяржаўным газетам да Дзяржкамдруку

Фонд абароны галоснасці Расіі звярнуўся з адкрытым лістом да прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, выказваючы свой пратэст "у сувязі з чарговымі парушэннямі свабоды слова ў Беларусі". Падставай для гэтага ліста паслужыла рашэнне Вышэйшага Гаспадарчага суда Беларусі ад 13 мая г.г., згодна з якім рэдакцыям шасці недзяржаўных газет — "Народная воля", "Белорусская деловая газета", "Имя", "Згода", "Навіны" і "Пагоня" — адмоўлена ў іску да Дзяржаўнага камітэта па друку аб прызнанні несапраўднымі вынесеных ім афіцыйных пісьмовых папярэджанняў.

Як вядома, гэтыя папярэджанні былі вынесены Дзяржкамдрукам пасля публікацыі ў згаданых газетах інфармацыі, якая непасрэдна тычылася кампаніі па выбарах прэзідэнта, абвешчанай Вярхоўным Саветам. Падставай для сумненняў расійскіх праваабаронцаў сталі некалькі фактаў: аб'яднанне ўсіх спраў па іскаў у адну вытворчасць, "насуперак пажаданням істцоў і існуючым працэсуальным нормам"; апавяшчэнне рэдакцый газет аб гэтым за дзень да пачатку слухання, калі адвакатаў газет не было ў Мінску альбо яны былі заняты на іншых працэсах; адхіленне законнага хадайніцтва істцоў аб пераносе разгляду справы і аб аб'яднанні ўсіх спраў у адну вытворчасць. Фонд абароны галоснасці таксама лічыць, што разгляд справы пры адсутнасці ў судзе прадстаўнікоў істцоў з'яўляецца парушэннем норм артыкула 62 Канстытуцыі Беларусі, якая гарантуе права кожнага "на юрыдычную дапамогу для ажыццяўлення і абароны правоў і свабод".

У лісце расійскага фонду на імя прэзідэнта адзначаецца: рашэнне Дзяржкамдруку, які "фактычна абвінаваціў газеты ва ўчыненні асабліва небяспечнага дзяржаўнага злачынства, засталіся ў сіле, а гэта азначае, што наступнае папярэджанне можа прывесці да закрыцця любой з газет". На думку расійскіх праваабаронцаў, "такі паспешлівы судовы працэс", які доўжыўся ўсяго адну гадзіну, "сведчыць аб далейшым узмацненні ціску на незалежную прэсу і ставіць пад сумненне саму магчымасць адстойвання газетамі сваіх законных правоў і інтарэсаў у судах Рэспублікі Беларусь".

Аналагічны ліст Фонд абароны галоснасці накіраваў Вярхоўнаму Камісару ААН па правах чалавека Мэры Робінсан.

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ, БелаПАН.**

## Заявление Белорусского Хельсинкского комитета

Министерством юстиции Республики Беларусь в очередной раз сделано заявление о том, что решение Верховного Совета 13-го созыва о проведении выборов Президента Республики Беларусь, создание Центральной комиссии по выборам и принимаемые ею решения являются незаконными ("Рэспубліка" от 11.05.99 г.). Основываясь на опубликованных разъяснениях Министерства юстиции, сотрудники КГБ, МВД, прокуратуры Беларуси привлекают граждан к административной и иным видам ответственности за их участие в избирательной кампании.

В связи с этим Белорусский Хельсинкский комитет считает необходимым обратить внимание на следующее.

Действующим законодательством Республики Беларусь Министерство юстиции не наделено компетенцией осуществлять надзор за соответствием деятельности граждан, общественных объединений, государственных органов и должностных лиц Конституции и законам Республики Беларусь. Министерство юстиции также не наделено правом официального толкования законодательных актов Республики Беларусь.

В свою очередь ни одним уполномоченным государственным органом либо судом в установленном законом порядке не принималось решений о признании вышеуказанных действий Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва и утвержденной им Центральной комиссии по выборам Президента незаконными.

Вопрос о законности роспуска Верховного Совета 13-го созыва является дискуссионным как внутри страны, так и в международном сообществе. Ссылка Минюста на спорное в правовом отношении решение части депутатов Верховного Совета от 27 ноября 1996 года не может служить основанием для законной, юридически обоснованной оценки происходящих в Беларуси событий. Заявления и действия Минюста лишь углубляют и обостряют конституционный и политический кризис в стране.

В заявлении также указывается, что Министерством юстиции вынесены письменные предупреждения 13 общественным объединениям и политическим партиям в связи с их участием в выборах Президента Республики Беларусь, в том числе Белорусскому Хельсинкскому комитету. В нем содержится напоминание руководству политических партий и общественных объединений, что такие предупреждения могут послужить основанием для отказа в перерегистрации этих партий и общественных объединений.

Министерству юстиции известно, что БХК обжаловал действия Минюста, связанные с вынесением письменных предупреждений в судебном порядке, и настоящее дело судом еще не рассмотрено. При таких обстоятельствах публичное обвинение БХК в незаконной деятельности является преждевременным и наносит ущерб репутации правозащитной организации.

Белорусский Хельсинкский комитет считает, что подобные заявления Министерства юстиции Республики Беларусь направлены не на контроль за соблюдением общественными организациями своих уставов, а на воспрепятствование осуществлению гражданами, общественными объединениями и политическими партиями своих конституционных прав и свобод и свидетельствует о нарушении статьи 25 Закона "Об общественных объединениях", вмешательстве Министерства юстиции в политическую деятельность.

## Пресс-релиз

14 мая 1999 года Гомельская областная комиссия по выборам президента Республики Беларусь приняла официальное заявление по факту опубликования в газете "Советская Белоруссия" за 12 мая 1999 года и в других государственных печатных изданиях так называемого протокола Гомельской областной комиссии по выборам президента Республики Беларусь с подписями членов комиссии без указания результатов голосования, который, по информации гомельских правоохранительных органов, был изъят у председателя комиссии Е.В.Мурашко.

Гомельская областная комиссия заявляет, что "гражданин Е.В.Мурашко выбыл из состава комиссии по собственному желанию еще до регистрации кандидатов в президенты Республики Беларусь. В составе комиссии нет и никогда не было гражданки Власовой. Секретарь комиссии Г.И.Артеменко, супруга Евгения Мурашко, выбыла из состава комиссии одновременно с ним. Ни в каких протоколах граждане Р.Н.Беланов и А.Ф.Евсеенко своих подписей не ставили".

**Пресс-центр Центральной комиссии по выборам президента Республики Беларусь.**

## На думку ўкраінскага прэзідэнта Л.Кучмы цяпер цяжка разлічваць на нейкія расійскія інвестыцыі

Адстаўка Яўгена Прымакова з пасады старшыні расійскага ўрада выкліча дадатковае напружанне ў Расіі. Як паведаміла агенцтва УНІАН, такое меркаванне выказаў прэзідэнт Украіны Леанід Кучма падчас наведвання Роўна, дзе праходзіла яго сустрэча з кіраўнікамі раённых адміністрацый і раённых Саветаў.

На думку Л.Кучмы, узбуджэнне пытання аб імпічменце прэзідэнту Барысу Ельцыну таксама не будзе садзейнічаць палітычнай стабільнасці ў Расіі, а толькі прывядзе да эканамічных стратаў. У падобнай сітуацыі нельга гаварыць аб якіхсьці расійскіх інвестыцыях ва ўкраінскую эканоміку, адзначыў Л.Кучма, паколькі ў цяперашняй сітуацыі Расія не ў стане быць крэдытарам, а тым больш — донарам для Украіны.

Паводле слоў украінскага прэзідэнта, "цяжка прагназаваць, па якім сцэнарыі будуць развівацца падзеі ў Расіі". Пры гэтым ён падкрэсліў, што Кіеў зацікаўлены ў палітычнай і эканамічнай стабільнасці паўночнага суседа.

**БелаПАН—УНІАН.**

## Прадухілены вываз за мяжу партыі ікон

Пагранічнікі Брэсцкай пагранічнай групы прадухілілі незаконны вываз за мяжу 14 ікон.

Як паведамілі ў прэс-цэнтры Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў Беларусі, іконы былі знойдзены пагранічнікамі пры аглядзе ў пункце пропуску "Брэст-Цэнтральны" пасажырскага цягніка маршрутам "Мінск—Варшава". Кантрабандны груз перададзены ў мытныя органы, і ў гэты час робіцца яго ацэнка.

**Алег САКАЛОЎ.**

Пр. Ірыны, Якава.
К. Аляксандры, Фелікса, Эрыка, Яна.

МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ МУЗЕЯЎ

МАЙ
18
'99 АЎТОРАК

Усход 5.03
Захад 21.11
Даўж. дня 16.08

Маладзік 15 мая
Захад 0.52
Усход 9.01

**Подробности**

## Есть свидетели исчезновения Юрия Захаренко

*Правоохранительные органы начали официальное расследование обстоятельств исчезновения экс-министра внутренних дел Юрия Захаренко. Параллельно свое расследование проводит и общественная группа, которой руководит Владимир Бородач, — бывший руководитель спецназа при Министерстве обороны, а ныне член оргкомитета Белорусского союза офицеров и военнослужащих. Наша беседа с Владимиром Викторовичем состоялась накануне выходных дней, в пятницу, 14 мая. Редакция допускает, что за эти дни события вокруг Юрия Захаренко могли развиваться по-разному, но заявление Владимира Бородача как бывшего "силовика" кажется нам небезынтересным.*

**— Владимир Викторович, как сегодня идет следствие по факту исчезновения Юрия Захаренко?**

— На мой взгляд, правоохранительные органы не очень стремятся и торопятся отыскать пропавшего Юрия Захаренко. До сегодняшнего дня не обследован детально район улицы Жуковского, где живет Захаренко и где поздно вечером 7 мая он поставил машину. Прошла неделя, но до сих пор не опрошены жильцы близлежащих домов. В то время, как нам — общественной группе — удалось установить, что Юрий Николаевич был похищен. Есть свидетели этого похищения.

В тот поздний вечер в районе дома №8 по улице Жуковского к возвращавшемуся домой Юрию Захаренко подошли три человека, сбили его с ног и заволокли в стоящую неподалеку машину "Жигули" темного цвета. Причем похитители сами в машину не сели.

Накануне того рокового дня, 5 и 6 мая, за Юрием Захаренко велось наружное наблюдение. Есть свидетели, которые видели машину БМВ красного цвета, следившую за машиной экс-министра внутренних дел. Нет смысла говорить о номерных знаках БМВ, потому что они официально в ГАИ не зафиксированы. Более того, когда Юрий Николаевич подошел к этой машине, водитель и сидевший справа пассажир закрыли лицо руками и поспешили отъехать. Все это дает мне основания считать, что криминальный след в исчезновении Захаренко отсутствует. К этому исчезновению причастны власти страны.

**— Свою версию исчезновения Юрия Захаренко вы не так давно представили журналистам. И если, как вы утверждаете, к этому похищению причастен Совет безопасности, то где, на ваш взгляд, может находиться сейчас бывший министр внутренних дел?**

— Одна из схем может быть такая. Кто-то из Совета безопасности получил прямой намек или приказ убрать Юрия Захаренко. Устранить физическим путем такого авторитетного в силовых структурах человека, как Захаренко, — было бы опасно, и будем надеяться, что вряд ли власти на это решились. Но то, что они хотели отстранить Юрия Николаевича от активной политической жизни в этот решающий период, очевидно. Властей настораживал тот факт, что Захаренко создает Белорусский союз офицеров и военнослужащих и в поддержку новой структуры выступали многие офицеры действующих частей и подразделений. Президент своим декретом №13 ущемил права всех силовых ведомств, и люди в форме высказывали недовольство. Власти, можно предполагать, не могли допустить, чтобы "силовики" объединились вокруг Захаренко.

На мой взгляд, Захаренко отвезли куда-нибудь в специально подготовленное заброшенное место. К Юрию Николаевичу, не исключено, применяются методы и способы психологического и физического воздействия, чтобы унизить и доказать, что он — ничто, что с ним сделают то, что захотят. Уродливых и античеловеческих способов воздействия на людей, к сожалению, очень много. Власти, скорее всего, ждут реакции общественности, ждут, есть ли какая-нибудь утечка информации, проверяют, чисто ли проведена операция, не засветилось ли хотя бы одно имя. Через определённое время, когда залечатся раны от пыток и насилия, Захаренко просто бросят где-нибудь, а потом объявят, что сам Захаренко все это устроил.

Вариантов по мере развития событий может быть тысяча...

Пользуясь возможностью, хочу обратиться к людям и сообщить телефон, по которому можно связаться с общественной группой, которая ведет расследование исчезновения экс-министра внутренних дел страны Юрия Захаренко: **226-68-10**.

**Беседовала Мария ЭЙСМОНТ.**

**Компетентное мнение**

*Александр СОСНОВ,*
*кандидат экономических наук,*
*зам. директора Независимого института социально-экономических и политических исследований*

## Диагноз: полное банкротство социальной политики Александра Лукашенко

Белорусским властям становится все трудней скрывать систематическое ухудшение социально-экономического положения в стране, несмотря на все усилия официальной статистики и подкаблучных государственных средств массовой информации. Причиной провала экономической политики А.Лукашенко является, как известно, дилетантизм как его самого, так и его команды, произвол и насилие, чинимые многочисленными контрольными органами, грабительские налоги и поощряемая властями коррупция в государственных органах.

Результатом такой политики является дальнейшее падение уровня жизни населения. Так, с начала года рост стоимости жизни даже в соответствии с официальным индексом потребительских цен, который, безусловно, занижен, к началу апреля составил 48,6% (за первый квартал прошлого года — 10,7%). За этот же период среднемесячная заработная плата увеличилась с 8 008 до 11 682 тысяч рублей, или только на 45,9%. Долларовый эквивалент среднемесячной заработной платы за указанный период постоянно снижался, особенно при расчете по курсу Национального банка страны (рис.1).



**Рисунок 1. Среднемесячная заработная плата в 1999г. (в долларах США)**

Более ускоренное падение эквивалента, рассчитанного по этому курсу, связано с тем, что в рассматриваемом периоде власти в надежде получить кредит МВФ пошли на некоторое приближение официального курса к реальному. Однако учитывая, что темпы роста цен достаточно близки к темпам изменения рыночного курса твердой валюты, долларовый эквивалент средней заработной платы, рассчитанный по свободному рыночному курсу, более точно характеризует истинное положение. Следовательно, реальная заработная плата систематически снижается, в то время как цены продолжают расти.

Таким образом, расчеты показывают совершенно безрадостную картину: рублевый прирост заработной платы не компенсирует трудящимся инфляционных потерь, а жизненный уровень работающих продолжает снижаться.

Не лучше складывается положение дел с пенсионным обеспечением. Номинальная начисленная среднемесячная пенсия за первый квартал увеличилась с 2 580 до 4 027 тысяч рублей, то есть на 56,1%, что несколько выше официальных темпов инфляции. Однако долларовый эквивалент среднемесячной пенсии, рассчитанный по курсу Национального банка, с декабря прошлого года сократился более чем на 10 долларов, или на 37,9% (рис.2). И хотя по рыночному курсу в первом квартале наблюдался даже некоторый рост средней пенсии, тем не менее ее общий уровень остается крайне низким. Сегодня президент и правительство, несмотря на преданность ветеранов идеям рыночного социализма и поддержку на выборах и референдумах, смогли выделить среднему пенсионеру за его многолетний и почти бесплатный труд всего 0,41% доллара в сутки, что ниже установленного ООН порога бедности, равного одному доллару в день.



**Рисунок 2. Среднемесячная начисленная пенсия в 1999г. (в долларах США)**

За период с начала года минимальный потребительский бюджет (МПБ) как показатель, определяющий уровень дохода, необходимого для простого воспроизводства рабочей силы, повысился с 6 967 до 11 377 тысяч рублей, или на 63,3%. Это значение превышает официальный индекс потребительских цен, чем подтверждается предположение о том, что цены на товары первой необходимости растут более значительно, чем это отражается государственной статистикой. Более того, рост долларового эквивалента МПБ, рассчитанного по рыночному курсу (рис.3), свидетельствует о том, что цены растут даже более существенно, чем рыночный курс наличного доллара. Следовательно, если бы доходы в долларовом исчислении даже оставались неизменными, это все равно означало бы падение жизненного уровня населения.

Вместе с тем соотношение между доходами населения и МПБ продолжает ухудшаться. Так, в марте текущего года размер минимальной заработной платы составил лишь 8,2% прожиточного минимума, или 5,6% минимального потребительского бюджета. А тариф первого разряда (со всеми доплатами и индексацией) — только 25,7% МПБ. Если в декабре прошлого года среднемесячная заработная плата в целом по всем работающим составляла 114,9% минимального потребительского бюджета, а средняя пенсия 37,0%, то в марте нынешнего года — только 102,6% и 35,4% соответственно. Иными словами, среднему работнику уже с трудом удается содержать лишь самого себя, а на семью зарплаты уже не хватает. Прожить же на среднюю пенсию совершенно невозможно!



**Рисунок 3. Минимальный потребительский бюджет (в долларах США)**

*(Окончание на 2-й стр.)*

## На думку Мечаслава Грыба, вызваленне ад пасады Я.Прымакова стане станоўчым крокам для захавання суверэнітэту Беларусі

"Адстаўка Яўгена Прымакова стане станоўчым крокам для захавання суверэнітэту Рэспублікі Беларусь", — заявіў у інтэрв'ю карэспандэнту БелаПАН выконваючы абавязкі старшыні Нацыянальнага выканаўчага камітэта ("ценявога" ўрада) Беларусі Мечаслаў Грыб.

На яго думку, былы кіраўнік расійскага ўрада рабіў вельмі шмат для таго, каб, насуперак нацыянальным інтарэсам Беларусі, "уцягнуць нашу краіну ў сферу інтарэсаў Расіі". Наступствы такіх намаганняў маглі б аказацца вельмі сумнымі для Беларусі.

Выконваючы абавязкі кіраўніка НВК таксама адзначыў асаблівую бізкасць пазіцый Яўгена Прымакова і Аляксандра Лукашэнкі. Апошні неаднаразова называў Яўгена Максімавіча сваім настаўнікам, а выступаючы напярэдадні Дня Перамогі ў Валгаградзе, гаварыў пра непажаданасць адстаўкі Я.Прымакова. Хаця, як заўважыў Мечаслаў Грыб, "меркавання Лукашэнкі па гэтым пытанні ніхто там не пытаўся".

Што тычыцца выконваючага абавязкі кіраўніка расійскага ўрада Сяргея Сцяпашына, то М.Грыб паведаміў, што ён знаёмы з ім з 1990 года. У той час С.Сцяпашын з'яўляўся старшынёй Камітэта па абароне расійскага парламента, а М.Грыб кіраваў Камітэтам па абароне і нацыянальнай бяспецы Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання. Яны часта размаўлялі, кантактавалі на розных міжнародных канферэнцыях і семінарах. М.Грыб адзначыў у С.Сцяпашыне перш за ўсё такія якасці, як "спакой, вытрымку, ураўнаважанасць, высокі прафесіяналізм".

**Уладзімір ГЛОД, БелаПАН.**

## Беларускае прадстаўніцтва карпарацыі "Дэлойт і Туш" падрыхтавала незалежны агляд банкаўскай сістэмы рэспублікі

Беларускае прадстаўніцтва міжнароднай кансалтынгавай і аўдытарскай карпарацыі "Дэлойт і Туш" (Deloitte & Touche) падрыхтавала спецыяльны незалежны агляд банкаўскай сістэмы Беларусі. Як паведаміў БелаПАН генеральны дырэктар прадстаўніцтва Юрый Сідаровіч, у першую чаргу агляд прыназначаны для замежных кліентаў. Пры складанні агляду ўлічваліся асноўныя фінансавыя статыстычныя паказчыкі дзейнасці банкаў — капітал, актывы, прыбытковасць, ліквіднасць і г.д.

Улічваючы пастаянную цікавасць з боку кліентаў да стану і дзейнасці беларускіх банкаў, у прадстаўніцтве "Дэлойт і Туш" плануюць складаць узгаданы рэйтынг на рэгулярнай аснове, зрабіўшы яго для пачатку штоквартальным.

**Аляксей АРЭШКА, БелаПАН.**

## П'еса маладога беларускага драматурга Л.Вашко "Секс па перапісцы" стала сапраўднай падзеяй тэатральнага сезону ў Маладзечне

Прэм'ера спектакля "Секс па перапісцы" паводле аднайменнай п'есы маладога беларускага драматурга, аспіранта Белдзяржуніверсітэта Лявона Вашко адбылася днямі і сталася сапраўднай падзеяй сёлетняга тэатральнага сезону ў Мінскім абласным драматычным тэатры, які месціцца ў Маладзечне.

"Секс па перапісцы" — гэта своеасаблівы эксперымент на сцэне. Ён выклікаў і поспех у гледачоў, і спрэчкі ў крытыкаў. "Мы паспрабавалі "разбурыць" межы асобнага жанру і звярнуцца непасрэдна да супярэчлівасці чалавечых пачуццяў, — адзначыў рэжысёр-пастаноўшчык спектакля Мікалай Мацкевіч. — Нам удалося абудзіць у гледачоў адчуванне камічнасці ў трагізме і трагізму ў камічным".

Сюжэт гэтага твора ад пачатку і да канца напоўнены напружанымі камедыйнымі здарэннямі і глыбокім пачуццём чалавечай трагедыі. У спектаклі арганічна злучыліся гратэскавая камедыя, шчымлівая меладрама і класічная трагедыя. Аўтар п'есы Лявон Вашко вызначае "незразумелы" жанр як "камедыю моцных пачуццяў і драму пачуцця".

Несумніўна, бліскучая гульня артыстаў, жыццесцвярджальная філасофія "Сексу па перапісцы" і захапляльны сюжэт твора — прычына маладзечанскіх аншлагаў.

**Ігар НІКАЛАЕЎ.**

**Творчество читателей**

## Настало время

*Приемы политической борьбы*
*Напоминают времена Мамая,*
*А те, кто это молча*
*одобряет,*
*Не вправе говорить:*
*"Мы — не рабы!"*

*Известно: пчелы жалят*
*дураков.*
*За это дурни бортников*
*не любят.*
*А бортники — послушать*
*стариков —*
*Дом обойдя, любую нечисть*
*губят.*

*Пора и общий дом наш*
*освящать —*
*Такая нежить воет и хохочет*
*Под крышею его и днем*
*и ночью.*
*Настало время Бортника*
*призвать!*

*Беда: народ к свободе*
*не привык,*
*А оттого и Бортник*
*за решеткой...*
*Но будет, будет разговор*
*короткий:*
*Мы запрягаем долго,*
*едем — вмиг!*

**О.КАЗАНЦЕВ,**
**координатор штаба Михаила Чигиря.**

**Стоп-кадр**



*Вясна.*

**Фота IREX/ProMedia.**

**Постфактум**

## Праўда жыцця Глеба Глебава,

### альбо Як у чыноўнікаў ад культуры не атрымаўся "Дыялог з артыстам"

На днях у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы адзначалі 100-гадовы юбілей з дня нараджэння народнага артыста Глеба Паўлавіча Глебава. Ён — адна з легендарных асоб Купалаўскага тэатра. Без яго роляў немагчыма прыгадаць практычна ніводны спектакль.

У кожнага акцёра ёсць штосьці, што ён робіць адмыслова, без чаго немагчыма яго ўявіць. Для Глеба Паўлавіча такога кшталту візітоўкай стаўся вобраз Тулягі са спектакля "Хто смяецца апошнім". Аднак нельга казаць пра "знешнюю" камічнасць яго герояў, бо кожная роля Глеба Паўлавіча вынікала не з вонкавасці, а з псіхалагічнай сутнасці характару. Кожны рух, кожнае дзеянне дакладна матывавалася і стварала тую "праўду жыцця", якая лічыцца сапраўднай вяршыняй майстэрства акцёра.

Свой творчы шлях Глеб Глебаў (сапраўднае прозвішча Сарокін) пачаў у 1921 годзе ў правінцыйных тэатрах на Украіне. Але ў поўным бляску выдатны талент акцёра раскрыўся ў Беларускім дзяржаўным тэатры імя Янкі Купалы, на сцэне якога ён з'явіўся ў 1926 годзе. Першай пробай яго сіл у гэтым калектыве была эпізадычная роля рабочага ў п'есе Е.Міровіча "Перамога". Пасля гэтага Глеб Паўлавіч сыграў у мностве разнастайных спектакляў. Тут можна прыгадаць і яго Паўла Няміру з "Бацькаўшчыны", і Пустарэвіча з "Паўлінкі", і Мендозу з "Дня цудоўных падманаў", і Гарпагона са "Скупога" і яшчэ шмат-шмат іншых яго роляў. І ў кожнай з іх выдатны майстар беларускай сцэны знаходзіў свежыя, новыя фарбы, тонка спалучаў у сваіх героях тыповыя рысы і індывідуальную своеасаблівасць.

Верны быў акцёр свайму прафесійнаму абавязку і ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Ён стаў мастацкім кіраўніком тэатра, які знаходзіўся тады ў Томску. Штодзённа брыгада купалаўцаў выступала на заводах, у шпіталях перад салдатамі. Дзве яго ролі былі адзначаны Дзяржаўнымі прэміямі. Глебу Паўлавічу аднаму з першых у Беларусі было нададзена ганаровае званне народнага артыста. Усяго за сваё багатае сцэнічнае жыццё выдатны майстар купалаўскай сцэны сыграў звыш 160 роляў. І большасць з гэтых роляў тэатральны глядач шануе і захоўвае аб іх удзячную памяць.

Пра ўсё гэта са сцэны гаварыла ўнучка Глеба Глебава заслужаная артыстка Беларусі Зоя Белахвосцік. Дарэчы, яна ж разам з Аляксандрам Гарцуевым склала і сцэнарый вечара. Як звычайна, не абышлося без "спецэфектаў". Напрыканцы вечарыны ўнучка прапанавала паглядзець пра свайго дзядулю фільм "Дыялог з артыстам". Апарат, на якім круцілі плёнку, дастаўся тэатру, напэўна, яшчэ ў часы Напалеона. Дый плёнку, відаць, для паказу так, як трэба, не падрыхтавалі. Адным словам, нешта сапсавалася і тэхнічная паўза ўзнікла раней, чым было запланавана па сцэнарыі. Зоя Белахвосцік, крыху збянтэжаная, папрасіла публіку пачакаць, пакуль выправяць паломку. Праз некалькі хвілін яна выйшла на сцэну ізноў і з запалам прамовіла: маўляў, выбачайце, успомнілі, як маглі... Нечый голас зверху ў адказ ёй параіў, што ўсё хутка наладзяць. У рэшце рэшт, фільм паказалі. Удзячная публіка апладыравала...

Уласна кажучы, вечарына была цудоўная. Афіцыёзу ніякага не было. Прычым як у прамым, так і ў пераносным сэнсе. Чыноўнікі ад Міністэрства культуры на сцэну не выходзілі. Кажуць, што іх са сцэнарыя выкрасліў дырэктар тэатра імя Янкі Купалы Генадзь Давыдзька. І правільна. Інакш шчырая атмасфера вечара была б сапсаваная...

**Марына КОКТЫШ.**

## Колькі нас?

Паводле папярэдніх звестак перапісу насельніцтва, які прайшоў з 16 па 23 лютага 1999 года, у Беларусі пражывае 10.037.213 чалавек. Як паведаміла намеснік начальніка аддзела перапісу насельніцтва Міністэрства статыстыкі і аналізу Валянціна Краўчанка, агульная колькасць мужчын, якія жывуць у краіне, склала 4.721.101 чалавек, жанчын — 5.316.112; 6.955.951 чалавек жывуць у гарадах і 3.081.262 — у сельскай мясцовасці.

У параўнанні з Усесаюзным перапісам 1989 года агульная колькасць насельніцтва скарацілася на 114.587 чалавек, у тым ліку мужчынскага — на 28.199, а жаночага — на 86.388 чалавек. За 10 гадоў, што прайшлі пасля перапісу 1989 года, на 314.551 чалавек павялічылася колькасць гарадскіх і на 429.138 чалавек скарацілася колькасць сельскіх жыхароў.

Больш падрабязныя вынікі перапісу ў выглядзе выхадных рэгламентных табліц будуць атрыманы не раней за лістапад 1999 года, пасля шыфравання, кадзіравання і камп'ютэрнай апрацоўкі ўсёй масы перапіснай інфармацыі. Дэтальная распрацоўка матэрыялаў перапісу будзе гатова не раней за сярэдзіну 2000 года.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Канфіскаваны цэлы арсенал зброі

Супрацоўнікі гомельскіх абласных упраўленняў КДБ і Камітэта па арганізаванай злачыннасці і карупцыі пры Міністэрстве ўнутраных спраў Беларусі канфіскавалі значны арсенал зброі ў жыхара Калінкавічаў.

Як паведамілі ў прэс-службе УУС Гомельскага аблвыканкама, нідзе непрацуючы 48-гадовы мужчына захоўваў дома незарэгістраваныя тры паляўнічых ружжа, калібру 16 і 12 мм і 115 патронаў да іх, газавы пісталет "Вальтэр", самаробны пісталет калібру 5,6 мм і 162 патроны да яго, ракетніцу, пнеўматычнае ружжо, штыкнож часоў Вялікай Айчыннай вайны. Усе знойдзеныя ў жыхара Калінкавічаў "ствалы" былі без нарэзаў.

Па дадзеным факце ўзбуджана крымінальная справа, уладальнік зброі затрыманы.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ.**

## 14 мая на 50 працэнтаў узрос кошт праезду ў Мінскім метрапалітэне

14 мая па рашэнні Мінскага гарвыканкама на 50 працэнтаў (з 4 да 6 тысяч рублёў) узрос кошт праезду ў сталічным метрапалітэне. З 1 чэрвеня на столькі ж падаражэе праезд у наземным транспарце горада. Поўны месячны праязны білет на ўсе віды транспарту абыдзецца зараз у 480 тысяч рублёў (раней — у 320 тысяч), ільготны — у 240 тысяч (раней — у 120 тысяч). Талон, што набыты ў вадзіцеля, з 1 чэрвеня ўзрасце ў цане на 60 працэнтаў (з 5 да 8 тысяч рублёў).

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

**Компетентное мнение**

## Диагноз: полное банкротство социальной политики Александра Лукашенко

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

Еще одним важным социально-экономическим показателем, определяющим общее положение населения в системе общественного производства, является его занятость, а точнее, уровень безработицы. Как показывают имеющиеся данные, спад производства и процесс увольнения избыточных работников привели к фиксации открытой безработицы в начале 1997 года на уровне 180—190 тысяч человек, или примерно 3,5 процента от численности трудоспособных в трудоспособном возрасте. Сегодня этот уровень заметно снизился и составил в конце марта текущего года 105,5 тысяч человек. Это, однако, не свидетельствует об уменьшении проблемы, поскольку административные меры, применяемые властями, дали свой эффект лишь по отношению к открытой безработице. Так, принятый в марте 1997 г. специальный декрет президента о дополнительных мерах по обеспечению занятости населения фактически был направлен на борьбу с официальными безработными, поскольку увязал выплату пособия по безработице с участием в общественных работах. Действие декрета привело к тому, что у безработных пропал смысл регистрироваться в службе занятости, ибо скудное пособие по безработице (не более двух минимальных заработных плат) можно получить, лишь отработав установленную норму времени на общественных работах. Декрет также вынудил службу занятости более жестко контролировать соблюдение безработными обязанностей, возложенных на них противоречивыми нормами законодательства, что интенсифицировало процессы снятия их с учета без какой-либо помощи по трудоустройству.

В результате произошел переход безработицы из открытой формы в скрытую, а общий фактический уровень безработицы остался прежним. Исследование, проведенное в г.Минске, показало, что к началу октября 1998 года на одного зарегистрированного безработного приходилось еще как минимум 5,3 незарегистрированных. Если предположить, что в стране в целом такое же соотношение, общая величина открытой и скрытой безработицы составила на 1 октября 1998 года около 670 тысяч человек, или более 12,3% трудоспособных в трудоспособном возрасте.

Эти цифры сами по себе весьма значительны. Однако необходимо иметь в виду, что на предприятиях имеется значительный избыток рабочей силы, увольнять который президент запретил. Вместе с тем наличие лишних работников ведет к неэффективному использованию труда, падению его производительности, снижению заработков. В случае же ослабления административного пресса вся эта масса излишних работников немедленно окажется за воротами предприятий, пополнив ряды и без того значительной армии безработных. Даже приблизительная оценка излишней численности показывает, что сегодня ее величина достигает 1,5 миллиона человек!

Следовательно, в настоящее время общая численность безработных и неэффективно занятых в экономике страны составляет свыше двух миллионов человек, то есть более трети трудоспособного населения в трудоспособном возрасте. Видимо, именно из-за того, что почти половина экономически активного населения фактически не работает, экономика страны и находится в жестоком кризисе, а уровень жизни людей постоянно снижается.

Таким образом, анализ основных аспектов социально-экономического положения в стране показывает полную неспособность нынешних властей переломить негативные тенденции и остановить дальнейшее ухудшение положения населения. Необходимо радикально изменить экономический курс. Однако без смены обанкротившегося руководства страны сделать это невозможно.

## Удзельнікі пленума прафсаюза працаўнікоў аўтасельгасмаша прынялі рашэнне актыўна супрацьдзейнічаць сацыяльна-эканамічнай палітыцы ўлад

Урад Беларусі не спраўляецца з сітуацыяй у эканоміцы — да такой высновы прыйшлі ўдзельнікі пленума Беларускага прафсаюза працаўнікоў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання — найбуйнейшага ў краіне прамысловага прафсаюза, які налічвае ў сваіх шэрагах каля 190 тысяч чалавек.

У пастанове пленума адзначаецца, што "сацыяльнае партнёрства ў рэспубліцы становіцца фармальным прыкрыццём антырабочай, антыпрафсаюзнай дзяржаўнай палітыкі"; з боку ўрада і наймальнікаў рэгулярна не выконваюцца генеральнае, тарыфныя і галіновыя пагадненні, калектыўныя дамовы.

На думку ўдзельнікаў пленума, у цяперашняй сітуацыі прафсаюз павінен актыўна супрацьдзейнічаць сацыяльна-эканамічнай палітыцы, праводзімай урадам, прычым адстойваць свае патрабаванні з выкарыстаннем усіх форм барацьбы (масавыя і лакальныя акцыі пратэсту, мітынгі, пікетаванні, сходы, сустрэчы і гэтак далей). Варта таксама ўзмацніць ціск на працадаўцаў з тым, каб рост заработнай платы апераджаў рост спажывецкіх цэн.

Кіраўніцтву Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай (ФПБ) пленум прапанаваў у маі—чэрвені гэтага года правесці другі рэспубліканскі сход прадстаўнікоў працоўных калектываў і прафсаюзаў, на якім павінны быць абмеркаваны вынікі выканання рэзалюцыі першага сходу (ад 21 мая 1998 года)

Апрача таго, на думку ўдзельнікаў пленума, неабходна аднавіць у гэтым месяцы працу Каардынацыйнага савета з тым, каб выпрацаваць узгодненую пазіцыю па абароне працоўных і пенсіянераў, а таксама правесці ў чэрвені—ліпені акцыю пратэсту супраць падзення ўзроўню жыцця насельніцтва.

**Ірына ЛЕЎШЫНА, БелаПАН.**

**Постскриптум**

*Анатолий Лебедько, депутат Верховного Совета 12-го и 13-го созывов, заместитель председателя Объединенной гражданской партии (ОГП)*

## Господа, носите носки с символикой Совета Европы

Апрель. Четверг. Утро. Икота. Гоню прочь. Не уходит. Кто-то вспоминает. К обеду неопознанный возбудитель икоты установлен. Группа лукашенковского сторонника В.Коноплева после визита в Страсбург общалась с журналистами. Посланцы белпрезидента старательно склоняли фамилию Лебедько по всем падежам. Пресс-конференция, по заверению присутствующих, очень напоминала разбор персонального дела "врага народа". Оказалось, что самое сильное впечатление от визита в одну из столиц Европы для представителей президентской стороны — это не чудный собор Страсбурга, не товарообильные прилавки, а... депутат Лебедько.

Верховный Совет отреагировал. На имя президента страны была направлена благодарность за работу его "Ходоков" в Совете Европы. В обращении к главе государства прямо говорится, что "в Страсбурге 26—27 апреля успешно работала делегация Верховного Совета и ее группа поддержки во главе с В.Коноплевым".

Каюсь, я думал, что коэффициент полезного действия Палаты президента равен нулю. Это ошибка. Ее обитателей необходимо как можно больше и чаще вывозить за границу. Их мировосприятие, выступления — это гарантия легитимности и признания Верховного Совета европейским сообществом минимум на два-три года вперед. Производителям "Герболайфа" следует обратить самое пристальное внимание на членов палаты представителей. Кажется, у них дар рекламных суперагентов.

Лично мне вообще грех обижаться на людей, бескорыстно выполняющих функции имиджмейкеров. Когда на совместной встрече двух делегаций с Генеральным секретарем Совета Европы Д.Таршисом представитель президента тов. Глуховский с пионерской непосредственностью объяснил причины международной изоляции Беларуси ораторскими способностями Анатолия Лебедько, я почувствовал, как комок подкатывает к горлу. Еще никто в оппозиционной среде не оценивал мои заслуги так высоко. А после заявления того же Глуховского, что работать с фракцией "народников" Парламентской Ассамблеи Совета Европы невозможно, так как она идеологически полностью обработана опять же мной, я смотрел на представителя Лукашенко, как Леонид Ильич на товарища Суслова, вручающего ему очередную звезду героя. Стихийный процесс братания прямо в кабинете Генсека Совета Европы предотвратил сам хозяин. Монументальный Даниэль Таршис сделал достаточно резкое заявление по ситуации в нашей республике. "Совет Европы пессимистично оценивает развитие событий в Беларуси. Мы обеспокоены нарушениями в области прав человека, состоянием свободы средств массовой информации и преследованием оппозиции". Это заявление вернуло нас в мир реальных вещей и событий. После аудиенции у господина Таршиса чиновник из канцелярии Генерального секретаря, указывая глазами на удаляющегося Глуховского, спросил: "Это ваш имиджмейкер?"

Пожать влажную руку председателя спецкомиссии по возврату кредитов я не успел. Четверка спешила обменять президентский привет и авоську с "Беловежской" на понимание и сострадание нового докладчика по Беларуси. Чувствовался стиль работы старого советского Госснаба.

В чем нельзя было отказать "палатникам", так это в старании. По-человечески их даже жалко. Они хотели как лучше для президента, получилось как всегда — лучше для оппозиции. Нельзя сказать, что все четверо — полная безнадега и бесперспективность. Для начала нужно как можно больше читать, читать и еще раз читать. Есть масса разных умных книжек о Совете Европы, о правах человека, о парламентаризме и прочих азах демократии. Стоит подарить постпредам президента носки с символикой Совета Европы. Когда они их будут носить, то станут лучше понимать суть и дух этой организации.

Нельзя не учитывать тот груз ответственности, который давил на группу Коноплева. Обширна Беларусь, а отступать некуда, позади — президент во гневе. Печальный опыт предшественников не сулил ничего приятного и существенного. Помнится, на аналогичные слушания в 1997 году были делегированы Ю.Малумов, Н.Дементей, А.Рачков и Г.Алексеенко. Тогда квартет отчитался победоносными реляциями и оптимистичными астропрогнозами о перспективах отношений с Советом Европы. Красивый мыльный пузырь, надутый палатниками два года назад и разрекламированный в государственных СМИ, однако быстро лопнул. Парламентская Ассамблея Совета Европы осталась холодной и недоступной, как айсберг. Миссия оказалась провальной. Не случайно весь состав той четверки был отправлен на скамейку запасных.



Новобранцы прошли по маршруту и графику своих неудачных первопроходцев. Единственное, что не вызывает сомнения, так это оптимальность нынешнего состава делегации. Возможно, есть вопросы по Чергинцу. Вяловат в дискуссии. Осторожен. Предпочитает слушать, вместо того чтобы бескомпромиссно отстаивать точку зрения президента. Возможно, сказывается что из всей четверки у него самое высокое воинское звание. Все-таки это не генерал, за год-два поднявшийся на дрожжах президентской любви. Но если укрепить это слабое место обороны, например, Костяном, который является агрессивным нападающим таранного стиля, то четверка способна покорить не только Страсбург, но и оставить победные надписи в общественных местах бундестага и Конгресса США.

Я могу только предполагать и догадываться, о чем думали, какие чувства испытывали наши оппоненты, принимая неприятные вопросы, критические комментарии депутатов Парламентской Ассамблеи Совета Европы во время слушаний о ситуации в Беларуси. Смею предположить, что их мысли не являлись зеркальным отражением того, что публично озвучивала президентская сторона. Мне кажется, что Шпилевский вполне разделяет наш пессимизм в оценке перспектив негосударственного сектора. Ведь его супруга — одна из тех десятков частных нотариусов, что были бесцеремонно брошены властью под каток произвола и беззакония. А Глуховский не хуже меня понимает политическую подоплеку "дела" Чигиря. А Чергинец прекрасно осведомлен, что оппозиция с 1995 года не имела ни одной минуты прямого теле- и радиоэфира, а ведомство Киселя демонстративно отказалось выполнять постановления Верховного Совета о порядке освещения работы парламента. Равно как Коноплев имеет четкие представления, что такое теневой бюджет страны и как он функционирует.

Что же мешало быть честным и откровенным? Это пятый коллективный член делегации — господин Страх и госпожа Зависимость от президентского распределителя. Шпилевского, чувствуется, одни воспоминания об угрозах президента передать его квартиру работягам тракторного завода настраивали на повторение подвига А.Матросова и готовность с криком "за Лукашенко!" броситься на амбразуру. Конструктивность и самокритичность Глуховского исчезли, как только он вспомнил о проекте указа президента о своем назначении на должность заместителя министра внутренних дел. Должность надо отрабатывать. В отношении Владимира Коноплева вообще действует принцип дистанционного управления. Он очень любит получать президентские "цу" прямо по сотовому телефону.

По приезде в Минск К. и компания поведали массу удивительных вещей, которые резко контрастируют с имеющейся записью слушаний в Политическом комитете ПА СЕ. Нет смысла комментировать все. Для понимания достаточно нескольких эпизодов, растиражированных прессой. Господин Коноплев озвучил следующую головоломку: **"Де-юре позиция Совета Европы по отношению к Беларуси остается прежней. Но если в прошлом году на заседании мандатной комиссии нас облили грязью и слова не дали сказать, то в этот раз нас выслушали... Доклад А.Лебедько слово в слово повторяет его прошлогоднее выступление на мандатной комиссии".** Этакое ассорти, состоящее из домыслов, лжи и бессвязного набора слов. Во-первых, в 1998 году в рамках Совета Европы никаких мандатных комиссий, занимающихся рассмотрением белорусского вопроса, не было. Во-вторых, по всей видимости, Владимир Коноплев в неподходящий момент просто запамятовал название организации, на заседании мандатной комиссии которой он присутствовал.

И это неудивительно. Забывчивость и неосведомленность — это отличительные качества многих представителей нынешней власти. Помнится, еще в 1996 году на сессии Верховного Совета президент Лукашенко никак не мог отличить Совет Европы от Евросоюза. Так вот напомню Владимиру Николаевичу, что заседание мандатной комиссии имеет отношение к Парламентской Ассамблеи ОБСЕ, и проходило оно летом прошлого года в Копенгагене. В-третьих, докладчиком на комиссии от Верховного Совета выступал депутат Владимир Нистюк, а я же участвовал в дискуссии на пленарном заседании Парламентской Ассамблеи. И, в-четвертых, обе делегации: Верховного Совета и представляющая президента Лукашенко на слушаниях в мандатной комиссии были поставлены в абсолютно равные условия. И Нистюк, и Коноплев имели по десять минут для изложения своей позиции.

И еще один пассаж Коноплева: **"Из выступления Лебедько я узнал, что в нашей стране фашизм, у власти находятся наркобароны, а у ОГП — 6,5 миллиона сторонников. Также Анатолий сообщил, что когда он придет к власти, все мы сядем".**

Текст моего выступления несколько отличается от коноплевской версии. Вот несколько выдержек из доклада, которые дают возможность расставить все точки над "і".

"В 1999 год Беларусь вошла как государственное образование с устоявшимся режимом "бархатной диктатуры" и господством идеологии лукашизма, представляющей смесь советского коммунизма, фашизма, шовинизма и махрового популизма".

"Более 80 процентов населения находится за или у черты бедности. ВВП на одного человека у нас в 25 раз меньше, чем в Дании, в 3,5 раза, чем в Чехии, в 2—2,5 раза меньше, чем в Турции, Латвии. Минимальная заработная плата составляет менее двух долларов. Беларусь по степени инвестиционной привлекательности занимает 142 место в мире. Равенство в нищете — это тот принцип, который проповедуют белорусские власти, сами при этом предпочитающие образ жизни "колумбийских наркобаронов".

"Я представляю Объединенную гражданскую партию, за представителей которой на последних парламентских выборах в 1995 году проголосовало около одного миллиона избирателей".

Напомню, что есть запись моего выступления в Страсбурге, и я готов нести ответственность за каждое слово, за каждую цифру. Что же касается идеи посадить кого-то за решетку, то ее авторство принадлежит самому Коноплеву. Могу только обещать, что я подумаю над этим предложением. Все это нервное. Не лжесвидетельствуй, не топчись в грязных ботинках по закону, не жлобствуй, не зарабатывай на сделках типа устранения Т.Винниковой, и тебя перестанут посещать видения и страх перед будущим.

Наблюдается одна удивительная закономерность. О демократии, правах человека, о важности Совета Европы представители президента почему-то вспоминают и говорят, только исключительно находясь в Страсбурге. Наверное, здесь особый климат, влияющий на риторику сторонников Лукашенко.

Но в тоже время за прошедшие три года не было случая, чтобы кто-то из президентских депутатов хотя бы раз публично сказал слово в защиту тех принципов и ценностей, на которых основана деятельность Совета Европы.

Президент целенаправленно и рьяно проводит антиевропейскую политику. Можно часами цитировать его оскорбительные выпады в отношении как отдельны государств и их лидеров, так и международных организаций. "Я за цивилизованным миром свой народ не поведу", — бросил вызов Лукашенко. Через некоторое время глава государства добавил "Европа — это зверинец" Вместо встречи с президентом Парламентской Ассамблеи Совета Европы Лени Фишер, он демонстративно уезжает гонять футбольный мяч. А затем и вовсе объявляет дипломатическую войну и выселяет послов из резиденции "Дрозды".

И после всего этого люди от Александра Григорьевича как ни в чем не бывало говорят о желании своего патрона быть в составе Совета Европы...

**На снимке:** *председатель Комиссии по международным делам Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва Анатолий Лебедько и председатель Парламентской ассамблеи Совета Европы Рассел Джонстон.*

**Чулі?**

## Віктар Чыкін піша па-беларуску!

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны звярнулася ў Мінгарвыканкам за дазволам на пікетаванне з мэтай агітацыі за беларускамоўную адукацыю і стварэнне Нацыянальнага універсітэта. Яно дазволена (павінна адбыцца 25 мая з 17.00 да 19.00 на плошчы Я.Коласа і ў Міхайлаўскім скверы). Паведамленне аб дазволе за подпісам намесніка старшыні Мінгарвыканкама В.Чыкіна, што прыйшло на адрас ТБМ, было, нарэшце (упершыню!) на беларускай мове! Відаць, не зусім дарэмнай усё ж была "выхаваўчая работа" з нашым чынавенствам, якую настойліва праводзілі сябры Таварыства ў асабістых стасунках і праз друк, у тым ліку — і праз "Народную волю".

Што ж, можна толькі парадавацца, што канструктыўная крытыка абаронцаў беларускасці дала свой, хай сабе і сціплы, плён. Хацелася б, каб ухвальны запал кіраўнікоў горада не абмежаваўся адным адказам, а распаўсюджваўся на штодзённыя карысныя справы дзеля адраджэння беларускай мовы на Беларусі.

**Рэгіна ІВАНІЦКАЯ.**

## Прадстаўнікі беларускіх дыяспар у Бельгіі пікетавалі пасольства Беларусі

Больш за 30 беларусаў, якія прыехалі ў Брусель з розных гарадоў Бельгіі — Антверпена, Гента, Намюра і іншых, пікетавалі пасольства Беларусі ў бельгійскай сталіцы. Удзельнікі акцыі, арганізаванай брусельскім офісам "Хартыі'97", патрабавалі адкрыць на тэрыторыі пасольства 16 мая выбарчы ўчастак, дзе прадстаўнікі дыяспары ў Бельгіі змаглі б узяць удзел у прэзідэнцкіх выбарах.

Як паведамілі ў прэс-цэнтры "Хартыі'97", у петыцыі, перададзенай супрацоўнікам беларускага пасольства, утрымлівалася таксама патрабаванне вызваліць у Беларусі палітзняволеных і спыніць рэпрэсіі ўлад у дачыненні прадстаўнікоў апазіцыі.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ, БелаПАН.**

